ВЫХОДЗІЦЬ З ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА




# Беларуская МАЛАДЗЕЖНАЯ

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета № 24



Станіслаў ШУШКЕВІЧ:

## "Саромецца мне няма за што!"

( стар. 2 )

## "Віцебская справа"

адгалоскі з'езду нацыяналістаў

( стар. 4 )

## САДОЎСКАГА -- У АДСТАЎКУ?

прэзідэнцкія гульні з дыпламатычным корпусам

( стар. 3 )

И. КУРОПАТКИНА, "БМ": ● Глубинка

## ВАШ ОТЧИЙ ДОМ неужто не стучится в сердце?

(стр. 5)

## Пра РОК

( стар. 7 )

## Жыццё ў стылі "БМ"

( стар. 8 )

## Пісьмы ў "БМ"

на старонцы 5

## Студэнцтва -- за Адраджэнне

Усебеларуская студэнцкая канферэнцыя

( стар. 3 )

Е. ШУМАРОВА: ● Под знаком "Ч"

## " Будь счастлива, Машенька! "

( стр. 6 )

Н. КОПЧЕНОВ, "БМ":

## ... А ЕСЛИ Б НЕ БЫЛО БУТЫЛКИ -- ЧЕСАЛИ ВСЕ БЫ МЫ ЗАТЫЛКИ...

Политэкономия постсоциализма

( стр. 3 )



## Не з'ядуць маразы -- пакусаюць цэны

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ:

# "Саромецца мне няма за што!"

-- Днямі -- чарговая гадавіна падпісання Белавежскіх пагадненняў. Станіслаў Станіслававіч, для вас гэта гадавіна, якую можна святкаваць, ці па якой варта сумаваць?

**-- Адразу скажу, што гэта гадавіна, якую можна святкаваць. Асабліва добра гэта адчуваеш, калі параўноўваеш з цяперашнімі падзеямі ў Югаславіі: там дзяржава развалілася, бадай што, на той жа падставе, што і Савецкі Саюз, але падзеі, звязаныя з развалам, не папярэдзілі неабходнымі прававымі пагадненнямі, дакументамі.**

**І святкаваць трэба хоць бы з той нагоды, што адносіны паміж краінамі СНД развіваюцца цывілізавана. Можна было б жадаць большага -- але гэта ўжо іншае пытанне.**

-- Але падпісанне Белавежскіх пагадненняў было ці не галоўнай прычынай Вашага паражэння на прэзідэнцкіх выбарах. Людзі адкрыта папракалі Вас у развале вялікай дзяржавы, няпэўнасці свайго "пастсаюзаўскага" становішча.

**-- Калі становішча пагаршаецца -- заўсёды пачынаецца пошук вінаватых, гэта ў традыцыях 70 гадоў панаваўшай сістэмы. Але ў Віскулях мы толькі канстатавалі, што становішча пагоршылася да неабарачальнага: Савецкі Саюз развалiўся, краіна ўжо не кiравалася Гарбачовым як прэзідэнтам і яго акружэннем, многія дзяржавы дэкларавалі свой суверэнітэт. Гэта вядомыя факты, гэта прызнаюць сёння ўсе. Фактам з'яўляецца і тое, што момант, у які кіраўнікі трох дзяржаў сабраліся ў Белавежы, быў яшчэ не той, пасля якога думаць, што рабіць, давялося б ужо на руінах. Але момант быў крытычны. Надзённа было вырашаць, як жыць далей, і руін, якія з'явіліся, напрыклад, у Югаславіі, тут не дапусціць.**

-- Вы лічыце, што, калі б не Віскулі, былі б жорсткія наступствы для Беларусі, Украіны, Расіі? Тут палыхнула б вайною?

**-- Не трэба так жудасна. Не падпісалі б Белавежскія пагадненні, можа, падпісалі б іншыя. Дарэчы, як падцвярджанне жыццяздольнасці знойдзенага рашэння -- Федэральны Дагавор у Расіі, тое ж, фактычна, Белавежскае пагадненне паміж удзельнікамі Федэральнага Дагавора. А тыя, што засталіся па-за гэтым дагаворам, -- сённяшнія "гарачыя кропкі".**

**Да гэтых руін не давялі. І, згодна з Белавежскімі пагадненнямі, два працэсы павінны былі ісці адначасова: дзяржаўныя пераўтварэнні і пераход на новы рынчачны базіс. Успомніце: 8 снежня мы падпісалі пагадненні ў Віскулях, а 16 студзеня была фактычна распачата гайдараўская лібералізацыя цэн. Расія спалучыла два працэсы: дзяржаўныя і рынчачныя пераўтварэнні. А ў Беларусі не хапіла ні мужнасці, ні паслядоўнасці.**

**Патрэбна была праграма рэфармавання. У Віскулях мы дэкларавалі скіраванасць на рынчачныя рэформы, павагу і падтрымку ў адносінах адно да аднаго, прынцыпы вырашэння супольных бед папярэдняга перыяду (той жа Чарнобыль). Што трэба было далей рабіць? Гэта павінна было ўваходзіць у наша заканадаўства. Але ішло з такімі цяжкасцямі! Прынялі Канстытуцыю, пэўныя заканадаўчыя акты. Але выконваць нават прынятае, рабіць рашучыя крокі баімся. Я больш чым год пераконваў і урад, і сённяшняга нашага віцэ-прэм'ера, і сённяшняга прэзідэнта (тады дэпутата), што павінна быць уласнасць на зямлю. Нулявы варыянт ужо недастатковы, трэба ісці далей, таму што мы абмяжоўваем інвестыцыі, не можам нікога сюды пусціць з капіталам, каб працавалі, беларускі капітал вывозіцца за мяжу. Але патрэбны і паслядоўны крок мы не робім. Лямантавалі: "Захаваем калгасы! Захаваем саўгасы!" Ні адзін жа не разбурыўся. Але нерэнтабельныя гаспадаркі цягнуць з дзяржавы (і з нас з вамі) сродкі. Вы, напрыклад, ведаеце, што, па падліках эканамістаў, утрымліваць нашы стратныя свінакомплексы значна даражэй, чым купляць неабходную колькасць мяса за мяжой? Але марнатраўства сродкаў людзі звязваюць не з бязглуздым гаспадараннем, а з развалам Саюза! Яшчэ адзін зразумелы прыклад прывяду. На момант утварэння Садружнасці з адной тоны нафты Аўстрыя рабіла ў тры разы больш тавараў спажывання і значна лепшай якасці, чым Беларусь. І разумны свет ставіць пытанне: ці нам аддаваць тую ж нафту на марнатраўства, ці перарабляць па-людску. Як можа існаваць такая антырацыянальная, стратная сістэма?**



**Рэформы сёння тармозяцца, мітусні вельмі многа, непаразуменняў многа, заклінанняў: "Не трэба ісці да праклятага рынку!" І ўсё роўна жыццё верне да рынку, паверне да сістэмы, якая самарэгулюецца.**

**У мяне вось у руках першы том пагадненняў па Садружнасці, пачытайце: нашыя папулісты -- ад камуністаў да прэзідэнцкай каманды (там ёсць і сур'ёзныя людзі, але большасць папулістаў) -- ужо хочуць, ужо згодны рабіць тое, што было вызначана чатыры гады назад.**

**Так што мне няма чым дакараць сябе за папярэдняе, падставу мы зрабілі добрую.**

-- Жыццё, урэшце, усё расставіць па сваіх месцах. Але, можа, вы пакрыўдзілі пэўную частку выбаршчыкаў не стратэгіяй -- тактыкай? Адна справа, каб аб распадзе Саюза адвесцілі дзе-небудзь на з'ездзе, урачыста і афіцыйна. Іншая -- знайшліся тры разумнікі! І чаму толькі тры? Чаму не далучыўся да вас хоць бы той жа Назарбаеў?

**-- Назарбаеў быў большым "разумнікам", чым тыя тры. Ён ляцеў да нас, і гэта зараз усім вядома. Папярэдняй размовы з Назарбаевым у мяне асабіста не было. Але мы ведалі, што ён паляціць у Маскву. Мы з Краўчуком папрасілі, каб з ім пагаварыў Ельцын. Ельцын звязаўся з ім, гаварыў падчас палёту, і Назарбаеў ляцеў да нас! Мы падрыхтавалі і сцяжок, і апартаменты для паважанага чалавека. Але, відавочна, ён з Масквой параіўся, і не ведаў, куды яшчэ што павернецца. Ён павінен быў быць на вышыні пры розным магчымым развіцці падзей -- і пры нашым варыянце, і пры іншым. Так яно і адбылося. Калі ён даведаўся, што наш варыянт перамагае, -- глядзіце, адразу ж мы збіраемся 21-га ў Алма-Аце. І пашыраем кола.**

**Трэба было пачаць. Патрэбны быў цэнтр крышталізацыі. Мы сабраліся ўтрох -- і, скажу шчыра, гэта было не проста. Не проста было для мяне прыняць такое рашэнне і запрасіць сюды кіраўнікоў. Успомніце -- толькі за два месяцы да таго я стаў Старшынёй Вярхоўнага Савета... Я не думаў, што менавіта такім пагадненнем мы завершым белавежскую сустрэчу. Мы мелі больш сціплыя намеры -- каб усё ішло афіцыйна апрабаваным шляхам. Я меркаваў, што будзе афіцыйнае камюніке, якое абавяжа Гарбачова прадпрыняць пэўныя захады. А пагаварыў з Краўчуком -- ён лічыць, што гэтага мала. Пагаварыў асобна з Ельцыным - бачу, і Ельцын лічыць такое рашэнне недастатковым.**

**Скажу болей: я ж папярэдне гаварыў з Ельцыным і Краўчуком -- ну а што, калі я запрашу і Гарбачова? На паляванне ў Белавежскую пушчу? (Я ніколі не займаўся паляваннем, гэта -- умоўна, гэта нагода).**

**Ельцын мне адразу адказаў:" Ну, тады мне там проста няма чаго рабіць!" З боку Краўчука асаблівага пратэсту не было, але я таксама зразумеў, што яму гэта не падабаецца.**

**Вялікі крок зрабіў дагэтуль Гарбачоў, але хацеў спалучыць ленінскія класавыя падыходы з фактычнай пабудовай капіталізму. Спалучыць неспалучальнае.**

**Пагадненне пісалася ноччу. Сцвярджаю, ні ў кога з нас не было манументальных "дамашніх" нарыхтовак, ніхто не цiснуў "толькі за сваё". Таленавітыя людзі працавалі: Шахрай, Козыраў, Бурбуліс, наша, украінская дэлегацыі. Мы фактычна ператварыліся ў экспертны савет --Ельцын, Краўчук і я, далучыліся прэм'ерміністры -- стала ўжо шасцёра. Канстатавалі, што няма ўжо Савецкага Саюза, пачалі думаць і вырашаць, як нам жыць далей.**

**Саромецца мне няма за што, а ганарыцца ёсць чым, я пераконаны.**

**А паглядзіце міжнародныя водгукі: вельмі высока была ацэнена праца ў Белавежскай пушчы. Адзначана рашучасць кроку і тое, як памяркоўна, развадліва гэта зроблена, вытрымана ў лепшых традыцыях цывілізаваных палітычных пераўтварэнняў.**

-- Ну гэта міжнародная супольнасць, але ёсць яшчэ наш, хатні, "славянскі менталітэт"...

**-- А чаму вы лічыце, насуперак думцы 40 працэнтаў насельніцтва Расіі, што Расія -- славянская дзяржава?**

-- Хоць бы таму, што ў шырока вядомым творы Салжаніцына "Как нам обустроить Россию" менавіта ёй наканавана аб'яднаць у славянскую супольнасць і Украіну, і Беларусь.

**-- Яшчэ раз паўтару: чаму вы не ўлічваеце думку і татар, і башкіраў, і якутаў, і мардвы? Хіба вы лічыце, што гэта -- славяне? Я б увогуле пытанне пра славянства не ставіў. Нажаль (падкрэсліваю -- нажаль), сабраліся ў Віскулях прадстаўнікі толькі трох дзяржаў. Ніякіх нацыянальных пераваг мы не мелі на ўвазе. Несумленна было б вылзеліць толькі славянскую групоўку, адмежавацца ад усіх, хто дзяліў з намі і хлеб, і пакуты ў Савецкім Саюзе. Хіба не вялікая краіна Узбекістан? І хіба не саюзаўскай палітыкай з яе зроблена монакультурная дзяржава, вялікі, працавіты народ даведзены да галечы? Некаторыя зараз упікаюць, што дэмакратыя ва Узбекістане і цяпер не на "узроўні". У іх выдаткаў дэмакратыі не болей, чым у нас! І мы сям-там, зарыентаваўшыся на заходнія стандарты дэмакратыі, спытваем цяжкасці. У іх постсаюзаўская спадчына, шматгадовае панаванне жорсткага таталітарнага рэжыму нарадзіла яшчэ больш праблем, складанасцяў з успрыманнем дэмакратычных стандартаў. Яны паступова будуць да гэтага ісці, больш павольна. Але абвяргаць, адхіляць іх удзел у Садружнасці з-за гэтага -- значыць пахаваць усялякія дэмакратычныя памкненні, фактычна знявечыць. Хіба можна такое рабіць? Наша Садружнасць -- садружнасць незалежных дзяржаў, кожная з якіх будуе сваё жыццё па-свойму лагічна. Але ёсць пазіцыі, якія мы можам і павінны забяспечыць разам.**

*(Працяг у наступным нумары)*

***Размаўляла Т.НІЧЫПАРУК***

# САДОЎСКАГА -- У АДСТАЎКУ?

**28 лістапада Прэзідэнт падпісаў Указ аб адкліканні пасла Беларусі ў Германіі Пятра Садоўскага. Што ж, згодна з артыкулам 100 Канстытуцыі мае поўнае права: "Прэзідэнт... назначае і адклікае дыпламатычных прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь у замежных дзяржавах і міжнародных арганізацыях". І, хочацца верыць, калі ён (Прэзідэнт) робіць такі сур'ёзны і адказны крок, ён мае на то рацыю, ёсць і нагода, і падстава, і прычыны. Забягаючы наперад, скажу: нажаль, высветліць, чаму адазваны пасол, мне не ўдалося ні ў Адміністрацыі Прэзідэнта, ні ў Міністэрстве замежных спраў, ні ў Вярхоўным Савеце -- усе адсылалі да самога Прэзідэнта, ніхто не ведаў. У Прэзідэнта спытаць таксама не давялося: як вядома, увесь гэты час ён правёў у дзелавых паездках -- ад родных берагоў Дзвіны, Дняпра і Сожа да блакітнага Дуная. Будзем спадзявацца, што калі-небудзь грамадскасць аб сапраўдных прычынах даведаецца. Цікава толькі, з якіх крыніц? (Не падумайце, барані божа, што я заклікаю на ўвесь белы свет распавесці пра нейкія дзяржаўныя тайны ці выдаць вельмі важныя сакрэты...)**

Ну, пра крыніцы -- крыху пазней, гэта асобная гаворка. А вось за што адазвалі пасла, я спрабавала высветліць.

Начальнік Упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта **А.І.Фядута** на брыфінгу заявіў, што яго А.Г.Лукашэнка не інфармаваў і не ўпаўнаважваў тлумачыць прычыны, і наогул, ён не ведае іх.

Прадстаўнік Прэзідэнта ў парламенце народны дэпутат **Д.П.Булахаў** даслоўна выказаўся так: "Не маю паняцця. Спытайцеся ў Прэзідэнта, чаму ён адазваў пасла Беларусі з Германіі. Ні я, ні мая камісія ніякага дачынення да гэтага не мае". Некаторыя дэпутаты былі больш катэгарычны.

**Алег Трусаў,** намеснік старшыні камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны: -- "Прэзідэнт хоча паставіць усюды сваіх людзей. Пётр Вікенцьевіч Садоўскі на гэтай сэсіі выступў вельмі рэзка і прынцыпова, а гэта не падабаецца прэзідэнцкай камандзе. Усё гэта -- падтасоўка калоды пад сваю масць".

Народны дэпутат Сяргей Навумчык: -- "У Пятра Вікенцьевіча Садоўскага ёсць чатыры галоўныя якасці, якіх, дарэчы, наогул пазбаўлена прэзідэнцкая каманда: у першую чаргу, ён -- інтэлігент; па-другое, добра ведае беларускую мову і выступае наогул за нацыянальнае Адраджэнне; па-трэцяе, ён вельмі адукаваны чалавек, паліглот; і чацвёртае -- ён член апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Адозва пасла Беларусі ў Германіі -- частка спантаннага працэсу ў русле кадравай чысткі, якую зараз праводзіць Прэзідэнт".

У Міністэрстве замежных спраў ніякіх канкрэтных тлумачэнняў адозвы П.В.Садоўскага мне таксама не далі. Сакратар Упраўлення інфармацыі і гуманітарнага супрацоўніцтва МЗС І.І. Полуян вельмі коратка паведаміў, што ні ён, ні супрацоўнікі аддзела інфармацыі не ведаюць прычын адклікання пасла.

Больш змястоўнай і грунтоўнай была мая размова са старшынёй пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях І.І. Цярэшкам і сакратаром парламенцкай камісіі В.Ф.Голубевым.

**Кар:** -- Ваша камісія мае самае непасрэднае дачыненне да працы нашых дыпламатаў за мяжой. Можа, хоць вы ведаеце прычыну адозвы пасла Беларусі з Германіі?

**І.І. Цярэшка.:** -- На жаль, мы не ведаем прычыны. Пачакаем, можа Прэзідэнт дасць якія-небудзь тлумачэнні.

**Кар:** -- Можа, камісія па міжнародных справах раней разглядала якія-небудзь заўвагі да пасла, ці вам вядомы нейкія недарэчнасці, непаразуменні, складанасці, праблемы, звязаныя з дыпламатычнымі прадстаўнікамі нашай рэспублікі ў Германіі?

**В. Ф. Голубеў**: -- Нашая камісія не разглядала ніколі ніякіх заўвагаў да пасла Рэспублікі Беларусь у Германіі. Мы заўсёды знаходзілі паразуменне з П.В.Садоўскім. Дарэчы, ён раней узначальваў нашу камісію, камісія падтрымала яго прызначэнне на гэтую пасаду. Ды й наогул, раней усе прызначэнні паслоў, дыпламатаў абмяркоўваліся ў камісіі, а канчатковае рашэнне прымаў Прэзідыум Вярхоўнага Савета. А цяпер усё вырашае толькі Прэзідэнт.

Ва ўсім свеце, дзе ёсць прэзідэнты, усё роўна такія прызначэнні абавязкова праходзяць праз адпаведную парламенцкую камісію. Пасол дзяржавы -- гэта нават не міністр. З міністрам можна кожны дзень сустрэцца і разабрацца. Пасол жа -- гэта асоба, якая прадстаўляе дзяржаву за мяжой, і таму, напрыклад, у Злучаных Штатах такая складаная працэдура прызначэння дыпламатаў: абавязковае абмеркаванне ў камісіях, нават у некалькіх камітэтах і на агульных пасяджэннях. У нас на сённяшні дзень увогуле не вызначаны парадак прызначэння паслоў і нашых прадстаўнікоў за мяжу.

**І.І.Цярэшка:** -- Я думаю, калі будуць прымацца Асноўныя накірункі знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь, мы закладзем раздзел, дзе будзе механізм ажыццяўлення знешняй палітыкі. Вярхоўны Савет можа закласці такі прынцып, дзе, захоўваючы канстытуцыйнае права Прэзідэнта прызначаць паслоў, унесці рэка-мендацыі ўзгадняць кандыдатуру з адпаведнай камісіяй Вярхоўнага Савета. Калі гэтага не будзе, навошта тады і камісія? Ці, магчыма, будзе прыняты Закон аб прызначэнні нашых дыпламатычных работнікаў. Але тут трэба працаваць і Вярхоўнаму Савету, і Прэзідэнту. І тут не павінна быць канфрантацыі, бо ўсе зацікаўлены прызначыць тую асобу, якая будзе праводзіць інтарэсы дзяржавы.

**Кар:** -- Як я зразумела, для вас, як і для мяне, адозва пасла Садоўскага з Германіі была поўнай нечаканасцю. Выбачайце за нясціплае пытанне, але адкуль вы даведаліся аб гэтым, з якой крыніцы --афіцыйнай, асабістай?

**І.І.Цярэшка:** -- Мне Валянцін Фёдаравіч Голубеў сказаў.

**В.Ф.Голубеў:** -- А мне паведаміла адна вельмі дасведчаная крыніца (тут ён загадкава ўсміхнуўся). А калі сур'ёзна -- не па афіцыйных каналах, нажаль. Крыўдна нават бывае, калі тэлефануюць спачатку журналісты, пытаюцца, ці праўда. Потым я званю ў Міністэрства замежных спраў асобе, якая займае адказную пасаду -- намесніку міністра, ён мне кажа: "зараз удакладнім". Праз пэўны час тэлефануе і падцвярджае. З гэтай адозвай так і было... І пра заганную практыку трэба таксама гаварыць, каб такое больш не паўтаралася.

Мы з Іванам Іванавічам падцвярджаем, што ў нас з прэзідэнцкімі структурамі яшчэ не было ніякіх супярэчнасцяў, мы разам дапрацоўваем дакументы, пэўныя кантакты па асноўных накірунках знешнепалітычнай дзейнасці. І мы хацелі б, каб і надалей не было ніякіх супярэчнасцяў, але вось гэты інцыдэнт... Я не хачу сказаць, што гэта канфрантацыя, але на перспектыву нам трэба шмат куды паслоў прызначыць, і вельмі добра было б, каб пасля вашай інфармацыі ў прэзідэнцкай камандзе таксама зразумелі, што трэба кантактаваць, а не канфрантаваць.

**Кар.** -- Валянцін Фёдаравіч, вы так дыпламатычна ўсё растлумачылі...

**В. Ф. Голубеў:** -- Ведаеце, я прыйшоў у камісію па міжнародных справах калісьці без адпаведных ведаў. Змаганне -- гэта адно, я ўжо адзмагаўся. Зараз я хачу будаваць і адбудоўваць гэту дзяржаву. А пэўныя паводзіны і Прэзідэнта, і пэўныя паводзіны некаторых дэпутатаў паказваюць, што дыпламаты ў паводзінах нам якраз і не хапае.

***Ну што тут дадаць?..***

***Так, дыпламаты нам сапраўды не хапае. На ўсіх узроўнях -- пачынаючы з адносін у сям'і, па працы, у чэргах, у грамадскім транспарце, на так званым бытавым узроўні. Не хапае, нажаль, яе і на самым высокім -- дыпламатычным -- узроўні.***

*Інна СТУДЗІНСКАЯ, "БМ"*

# СТУДЭНЦТВА -- ЗА АДРАДЖЭННЕ

**Праўду кажуць, што выратаванне тапельцаў -- справа рук іх саміх. Беларуская нацыя і культура ўжо шмат гадоў у стане тапельца. Патанаем -- дзяржава, культура, нацыя.**

Хоць позна, але пачынаем разумець, што ніхто нам не дапаможа, ніхто не адродзіць нашу Бацькаўшчыну, цывілізацыю на гэтай зямлі за нас. І то, разумеюць не ўсе. Вялікая колькасць лічыць, што няма ў нас ні Беларусі, ні годнай спадчыны, ні мовы, ні будучыні -- хіба толькі вярнуцца ў "общность -- советский народ" з правамі і прыкметамі дзіўнаватай правінцыі.

І толькі на плячах самай свядомай часткі нацыі ляжыць гэты цяжкі крыж -- Адраджэнне. Дзякуй Богу, студэнцтва пачало атаесамляць сябе з тымі, каму наканавана працаваць у гэтым накірунку. 23-24 лістапада Усебеларуская студэнцкая канферэнцыя пад назвай "Роля і месца студэнцтва ў нацыянальна-культурным будаўніцтве на Беларусі" была арганізавана Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, Беларускім каардынацыйным цэнтрам навукова-даследчай работы студэнтаў, Белдзяржуніверсітэтам і Мінскай гарадской радай Таварыства беларускай мовы.

Канферэнцыя была распачата словамі да студэнтаў, што прыехалі з розных куткоў Беларусі. Словы гэтыя казалі і А.Лойка, дэкан філалагічнага факультэта БДУ, член-карэспандэнт АН Рэспублікі Беларусь, і прарэктар БДУ С.Рашэтнікаў. Самае прыемнае і самае незвычайнае -- словы намесніка міністра адукацыі і навукі Т.Галко. У прыватнасці, яна першая з усяго ўрада сказала, што нацыяналізм -- гэта добра! Але не нацыяналізм у сэнсе нацызму, а нацыяналізм у здаровым сэнсе, які, адраджаючы нацыю, не зневажае іншыя народы. Намеснік мінстра адзначыла, што ёсць інтарэсы беларускай нацыі і ёсць інтарэсы дзяржаўныя, інтарэсы ўсіх нацый, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі. І справа моладзі -- знайсці кампраміс паміж гэтымі інтарэсамі, выкарыстоўваючы ўсю сваю талерантнасць.

Пералічу толькі назвы секцый, якія працавалі, каб акрэсліць кола праблем, якія хвалююць, па якіх вядуць даследванні, робяць навуковы аналіз і прагноз студэнты і выкладчыкі: "Выхаванне нацыянальнай свядомасці і патрыятызму ў студэнтаў", "Навуковы пошук студэнтаў -- нацыянальна-культурнаму Адраджэнню", "Вучэбны працэс. Праблемы нацыянальна-культурнага Адраджэння".

Усебеларуская студэнцкая канферэнцыя паказала, што студэнцтва абуджаецца як актыўная, прагрэсіўная частка нацыі, занепакоена лёсам Бацькаўшчыны. І варта вітаць маладое пакаленне, не атручанае камуністычнай ідэалогіяй, не абмежаванае на дзесяцігоддзі вызначанай партыйнай скіраванасцю, не абцяжаранае неабходнасцю зводзіць рахункі з мінулым. Пакаленне, якое лічыць за шчасце і жыццёвую неабходнасць, каб на вуліцах гучала беларуская мова, па тэлебачанні ішлі беларускія кінафільмы, і людзі імкнуліся на выставы беларускіх мастакоў. Каб усё гэта было сапраўды вартым і роўным у сусветнай супольнасці, яны гатовыя працаваць, ствараць, дзейнічаць. Жыве Беларусь!

*Сяргей КІЕНЯ, спецыяльна для "БМ"*

● Политэкономия постсоциализма

# ... А ЕСЛИ Б НЕ БЫЛО БУТЫЛКИ -- ЧЕСАЛИ ВСЕ БЫ МЫ ЗАТЫЛКИ...

Денежки наши, хранившиеся в сберкассах, как известно, "крякнули". Копил на "Волгу" -- изволь получить бутылочку "Празрыстай". Кто попрозорливей был -- успел кое-что и посущественнее приобрести. Я -- не успел. С носом, как говорится, остался. Купил бутылочку. Думаю: эх-ма, горе - - не беда! Хоть какую-то мелочь (раньше ее хватило бы на подержаный "жигуль") потратить с толком сумею...

И что бы вы думали? На сей раз -- как в воду глядел! Не знаю, какую дырку от бублика получат первые белорусские вкладчики приватизационных чеков "Имущество". А я свои дивиденды умудрился получить самым своеобразным путем: тара вздорожала почти вдвое. Не успел я даже опорожнить содержимое, а она-родимая доходец принесла. Если учесть, что бутылок у меня из-за простой человеческой лени скопилось приличное множество, то три тысячи серпастых и молоткастых рубликов, украденных у меня инфляцией, будут компенсированы мне приемными пунктами стеклотары сторицей. Больше, чем от троекратного их увеличения за счет правительственной "компенсации".

Так что крутите "шариками", дорогие соотечественники, пьяницы горькие и трезвенники отъявленные (из-под "пепси" и "фанты" тоже тара остается!). Процент на "бутылочном бизнесе" будет, пожалуй не меньшим, чем обещает по "телеку" Русский Дом Селенга на украинском, киргизском и прочих братских языках наших недавних соседей по СССР. Если же придержать на балконе (в подвале, кладовке...) опустевшую почему-то тару годок-другой, то, может, и сбудется наша с вами доперестроечная мечта о вожделенном авто?..

Президент у нас, говорят, "завязал" со спиртными напитками "насухо". Жаль, а то бы я ему без всяких там дипломатических протоколов тост на брудершафт предложил бы: "Спасибо, "батька", от всех насдодырей, не сдающих вовремя свои поллитровки и чекушки. Чего-чего, а этого добра у народа навалом. Богаче ты нас сделал. Так выпьем же с надеждой на лучшее будущее -- за еще одно бутылочное подорожание!"

Нет-нет да и напрашивается параллель с книгой В.Войновича "Москва. 2042". Там горожане в обмен за сданное "вторичное" (дерьмо) получали "первичное" (то же самое дерьмо в виде мяса вегетарианского) в бесплатных столовках. Видать, и мы скоро до таких дел дойдем. Тут-то мы не только Москве -- всей России фору дадим. А кран топливный перекроют за неплатежи -- мы им по этим самым газо - и нефтепроводам все это дерьмо вмиг перекачаем, как коммуняги собирались в следующем веке с Западом поступить.

Глотнем, что ли, за Президента, мужики, а?...

*Н. КОПЧЕНОВ, "БМ"*



# ГАМОН, БРАТЦЫ!



## "Віцебская справа"

У ноч з 25 на 26 лістапада ўсе цягнікі, якія ішлі ў накірунку Віцебска, спыняліся і правяраліся міліцыяй. Некаторым гэта тлумачылася, як барацьба са злачыннасцю на чыгунцы. Заходзячы ў вагон, прадстаўнікі выканаўчай улады пыталі ўправаднікоў: "На каком языке разговаривают ваши пассажіры?"

У суботу 26 лістапада аб 11-ай гадзіне ў Віцебску, ў будынку прыватнай "Галерэі Алеся Пушкіна", распачаў працу І-ы з'езд беларускіх нацыяналістаў. На ім прысутнічалі 45 дэлегатаў ад партыі "Правы рэванш" і Нацыянальнай партыі Беларусі. На гэтым з'ездзе меркавалася ўтварыць правы рэванш нацыяналістаў з мэтаю каардынацыі дзеянняў нацыяналістычных партыяў і супольнага ўдзелу ў маючых адбыцца выбарах у Вярхоўны Савет.

Да адкрыцця з'езда, прыкладна а 10-й гадзіне, былі затрыманы міліцыяй сябры партыі "Правы рэванш", якія мелі намер устанавіць на фасадзе галерэі плакат з вітаннем удзельнікаў з'езду і павесіць чорна-чырвона-чорны сцяг беларускіх нацяналістаў, а таксама затрыманы журналіст менскай газеты "Наша слова" Уладзімір Панада, які фатаграфаваў. Журналістам, якія намагаліся даведацца пра лёс затрыманых, пад пагрозай прымянення сілы было прапанавана пакінуць будынак пастарунка.

У сваім прывітальным слове Славамір Адамовіч, лідар незарэгістраванай партыі "Правы рэванш", падкрэсліў, што з'езд прыходзіць у знамянальныя дні. 27 лістапада ў 1930 гадзе ў горадзе Воршы нарадзіўся Уладзімір Караткевіч, 74 гады таму ў 1920 годзе адбылося антысавецкае паўстанне на Случчыне. Алесь Пушкін, уладальнік галерэі, заклікаў прысутных найхутчэй стаць багатымі, каб ва ўласных будынках і памяшканнях вольна збіраць якія зайгодна з'езды. У гэты час міліцыя і ўзброенныя амонаўцы ачэплівалі будынак.

Прамову А.Пушкіна перарваў падпалкоўнік міліцыі Табуноў, нам. нач. Кастрычніцкага РАУС г.Віцебска, які, спаслаўшыся на ананімнае тэлефаванне, паведаміў, што будынак замініраваны і запатрабаваў дэлегатаў з'езду пакінуць памяшканне.

А.Пушкін, узгадаўшы Канстытуцыю, папрасіў падпалкоўніка, які не меў санкцыі пракурора, пакінуць тэрыторыю прыватнай маёмасці, заявіў, што ўсю адказнасць за жыцці людзей бярэ на сябе. І працягнуў сваю прамову паведамленнем, што, спаслаўшыся на Закон аб мітынгах і дэманстрацыях, Віцебскі гарвыканкам за подпісам старшыні В.Неўшава забараніў запланаваную на 27 лістапада дэманстрацыю беларускіх нацяналістаў. Было сказана, што акцыя ўсё ж адбудзецца, але Пушкін папрасіў прысутных добра падумаць, чым браць у ёй удзел, бо вядома, што "міліцыя распрацавала аперацыю "Щит" па разгоне дэманстрацыі.

Неўзабаве ў галерэю ўварвалася група ўзброеных амонаўцаў каля 50 чалавек і гвалтам "ачысціла" памяшканне. За ўсім гэтым з вокнаў з цікавасцю назіралі жыхары суседніх дамоў. Побач, у абласным краязнаўчым музеі у гэты час на экскурсіі знаходзілася вялікая група дзяцей. Супрацоўнікі музея выказалі здзіўленне, што іх не папярэдзілі аб маючым адбыцца выбуху, бо музей знаходзіцца ў пяці мэтрах ад галерэі. А.Пушкін і С.Адамовіч былі дастаўлены ў тутэйшы пастарунак. Карэспандэнта "7 дней" Ціну Клыкоўскую гвалтам выпіхнулі з пастарунку, калі тая намагалася высветліць лёс затрыманых. Надвячоркам таго ж дня ўсе былі вызвалены. На С.Адамовіча за "негвалтоўнае супраціўленне" міліцыі было накладзена пакаранне ў 300 рублёў. Паводле слоў А.Пушкіна, ягоная галерэя пад час "вызвольнай" аперацыі міліцыі атрымала шкоду ў 15 тыс. рублёў.

У нядзелю 27 лістапада ў гарадскім віцебскім парку ля помніка У.Караткевічу сабралося каля 100 чалавек з мэтаю правесці мітынг і дэманстрацыю з нагоды 74-ых угодкаў Слуцкага паўстання і 64-ых угодкаў з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. Парк быў ацэплены міліцыяй, якая не раіла жанчынам з дзецьмі і жыхарам сталага ўзросту заходзіць у яго. На пачатку мітынга С.Адамовіч абвясціў, што ўсё ж быў утвораны выканаўчы камітэт З'езда нацыяналістычных арганізацый, які будзе займацца каардынацыяй дзейнасці нацыяналістычных сіл Беларусі, а таксама падрыхтоўкай ІІ-га з'езда. Удзельнікі мітынгу ўсклалі кветкі да помніка Ул.Караткевічу і мелі рушыць па праспекце Леніна да плошчы Свабоды.

Нечакана да помніка пад'ехала некалькі аўтамабіляў УАЗ. Груба былі паваленыя на зямлю некалькі ўдзельнікаў акцыі, якія трымалі беларускія сцягі. Волакам іх зацягнулі ў аўтамабілі, у тым ліку Алеся Пушкіна, Славаміра Адамовіча і Аляксандра Рамашэўскага -- сакратара Партыі аматараў піва.

Міліцыя заклікала прысутных разыйсціся, але людзі рушылі па вуліцы Суворава да плошчы Свабоды. Як толькі ўсе ўдзельнікі апынуліся на вуліцы Суворава, шэсьце было ачэплена міліцыяй. Людзі ў цывільным, не прад"яўляючы дакументаў, праводзілі "асабісты дагляд" грамадзянаў. Яны абшукалі і вашага аўтара. Міліцыяй былі затрыманы яшчэ некалькі асоб, разам з імі фотакарэспандэнт дзяржаўнага агенцва Белінфарм Аляксандр Хітроў і рэдактар газеты "Віцебскі кур'ер" Сяржук Ніканораў.

У незалежнага фотакарэспандэнта Аляксандра Анішчанкі людзі ў цывільным вырвалі з рук камеру і засвяцілі стужку. Надвячоркам затрыманых вызвалілі. Усім, акрамя журналістаў, высунуты абвінавачванні ў арганізацыі несанкцыянаванай дэманстрацыі. Учора ж у Віцебску адбылася дэманстрацыя шавіністычнай арганізацыі "Белая Русь". Дэманстранты ішлі пад манархічнымі жоўта-чорна-белымі сцягамі і выкрыквалі антыбеларускія лозунгі. Кіраўніцтва Віцебскай міліцыі адмовілася каментаваць гэтыя падзеі.

**У Віцебску занатаваў Э.ТАРЛЕЦКІ**

## *Мікола СТАТКЕВІЧ, старшыня БЗВ,*
## *спецыяльна для "Беларускай маладзёжнай"*

**-- Мікола, пэўны час таму я была ненаўмыснай сведкай аднаго абмеркавання. Вы ўжо ведалі, што ў Віцебску "першы з'езд беларускіх нацыяналістаў" і жартам ці ўсур'ёз прыкідвалі, а ці не паўстаць "буферам", каб не пабілі бедных "нацыяналістаў" -- усе ж, нібыта, за ідэю нацыянальную...**

-- Пытанне "паўставаць" ці не і не стаяла. З арганізатараў з"езда "па дапамогу" да нас ніхто не звяртаўся -- ды й навошта, "Правы рэванш" -- яны ж самі "крутыя". Пытанне ўдзельнічаць ці не ў віцебскай акцыі адназначна вырашалася адмоўна. Не. Кожная акцыя павінна мець сэнс. Можна абвясціць усё, што каму захочацца, -- але з якой мэтай? Навошта? Каб яшчэ раз прыцягнуць увагу да свайго існавання? Каб сёе-тое дабавіць да пэўнай "славы"?

Кожная акцыя павінна мець свой сэнс і згодна з гэтым сэнсам павінна быць падрыхтавана. Тут гэтага не было.

Па-другое, мы паглядзелі, хто арганізуе гэтую акцыю. Заўсёды далучаешся не толькі да пэўнай дзеі, а і да асоб.

Так што БЗВ у віцебскім з"ездзе не ўдзельнічала. Праўда, некаторыя з нашых сяброў накіраваліся ў Віцебск самастойна, ведаючы адмоўнае стаўленне да гэтага кіраўніцтва. Але гэта іх асабістае права і асабістае жаданне -- мы не маем права абмяжоўваць асабістую свабоду чалавека і не збіраліся гэтага рабіць і ў дадзеным -- канкрэтным -- выпадку.

Людзі, якія скіраваліся ў Віцебск, вярнуліся ў першы ж дзень, я б сказаў, расчараваныя.

**-- Мікола, я б хацела канкрэтызаваць вашыя словы наконт стаўлення да асоб, абвясціўшых "першы з'езд беларускіх нацыяналістаў".**

-- Я гэтага рабіць не хачу.

**-- Выбачайце, але ці не падаецца вам, што нацыянальную ідэю пачынаюць бессаромна эксплуатаваць -- да шкоды, да дыскрэдытацыі?**

-- Ідэя Адраджэння, нацыянальная ідэя -- моцная, шырокая. І мы спакойна ставімся да таго, што да яе пацягнуліся нават экзатычна-скандальныя арганізацыі і асобы. Калі хочаце, гэта нават прыкмета наспеласці ідэі -- яна захапіла і аб'ектыўна-цэнтрычных прыхільнікаў, і эксцэнтрычных. Але калі экзатычна-скандальныя прэтэндуюць менавіта вакол сябе аб'ядноўваць прыхільнікаў нацыянальнай ідэі -- выбачайце!

**Запісала Т.НІЧІПАРУК, "БМ"**

## "С ТАКИМ НАРОДОМ МОЖНО СДЕЛАТЬ ВСЕ..."



Власть имущие в Беларуси и прежде, и сейчас любят повторять как заклинание, что народ в республике "памяркоўны", рассудительный и толерантный. Это правда. С таким народом можно сделать все. В зависимости от интонации. Но вдруг, буквально за последние несколько месяцев, в республике стали появляться, прямо скажем, немногочисленные, но заявляющие о себе организации и партии, как правило, праворадикального толка. Первый съезд белорусских националистов в Витебске в этом смысле тем и интересен, что он был первым. Правда, не объединительным, как можно было предположить и на чем настаивали некоторые участники, а скорее -- если не образцово, то показательным.

Националистов-радикалов было немного. Судя по регистрации, около шестидесяти человек. Но радикалов (любых) всегда немного. Причем, большинство приходивших и уходивших представляли, по сути, самих себя, а не были делегированы от каких-то групп и партий. Съезд не привлек внимания серьезных партий и движений, выступающих в русле белорусского национального возрождения. Ни БНФ, ни "Грамада" не прислали делегатов. Собственно, наблюдать было не за чем. Если бы в первый день съезда не возник анонимный телефонный звонок о якобы заложенной в здании бомбе, то до заключительного этапа --митинга и факелов у памятника Короткевичу -- это событие в событие не превратилось бы. Помогла милиция. Без нее первый съезд белорусских националистов прошел бы никем не замеченным, кроме его участников, которым теперь хоть будет что вспомнить и о чем рассказать: обыск, задержание, "воронок", штрафы, наглядное проявление страдания за народ и идею. Что бы радикалы делали без милиции?

Съезд, который инициировала группа "Правый реванш" журналиста и поэта Славомира Адамовича, в сущности, держался только на его личности и блестящем, с точки зрения имиджа и организации паблисити, поведении витебского художника -- постмодерниста Алеся (Александра) Пушкина. В его галерее и проходило событие. На современном языке художников это называется "перфоманс". Они, . безусловно, личности, и поэтому выделялись на фоне хлопцев ПТУшного возраста и как бы "залетных" дядек. Не удивительно, что, поговорив о страданиях "своего народа", участники съезда, быстро исчерпав повестку дня, приняли заявление, в котором призвали к борьбе за Беларусь без русского фашизма. Под фашизмом понимается политика проимперских и великодержавных партий, представители которых, в свою очередь, прошагали под имперским монархическим триколором вдоль окон галереи, где проходил съезд.

Чего хотят еще участники съезда? Белорусский порядок, белорусскую семью, белорусский бизнес. Короче, даешь немедленную белорусизацию всей страны. Если взять лозунги баркашовцев из "Русского национального единства", выступающих за русское национальное государство в границах России, Беларуси и Украины, то достаточно заменить слово "русский" на "белорусский" и наоборот. Правда, в отличие от сторонников "русского порядка", белорусские националисты гораздо терпимее и умереннее по отношению к инородцам. Откровенные антисемитские высказывания позволил себе только председатель Белорусской национальной партии Анатолий Астапенко. Его Беларусь мешают строить еще и "жиды". В своих интервью накануне съезда (одно из которых опубликовала на первой странице "Народная газета"), Астапенко призывал к приоритету национального государства над личностью. Нетрудно представить, какое национальное государство он начнет строить, если окажется у хоть какого-либо руководящего рычага. Безусловно, закономерно, что такой съезд прошел, заявив тем самым о новом в белорусском обществе явлении. На самом деле появление радикальных националистических групп и групп, называющих себя партиями, -- процесс закономерный и естественный для любого демократического общества. При условии демократизации и тенденции к выходу из экономического кризиса такие проявления останутся вне общенациональных и государственных процессов. Но если начавшаяся люмпенизация общества будет продолжаться, то разочарованные и комплексующие люди, а также нетерпеливая, оказавшаяся в духовном вакууме часть молодежи могут стать основой для роста численности таких групп и распространения радикальных воззрений. Взаимные обвинения противостоящих сторон и идейное неприятие перерастут в практику насилия. Тем более, что его традиции в постсоветском обществе в целом если пока не побеждают, то живут. И еще как живут.

**Александр СТУПНИКОВ, специально для "БМ"**

## СОЦИОЛОГИ ФИКСИРУЮТ... ИНФАНТИЛЬНОСТЬ

Студенчество и молодежь во всем цивилизованном мире называют, как известно, "динамитом общественного спокойствия". Как обстоят дела с политической активностью двадцатилетних в нашей суверенной Беларуси?

В уходящем году социологи Академии наук пришли путем опроса к самым неожиданным выводам: да почти никак!

Треть опрошенных ответили, что вообще политикой не интересуются. Почти сорок восемь процентов заявили, что испытывают к ней лишь незначительный интерес. Более десяти процентов затруднялись дать ответ на этот вопрос, и лишь шесть с "хвостиком" процентов респондентов очень интересует политика.

Что это? Инфантильность или разочарование?

Если раньше молодежь довольно активно участвовала в деятельности комсомола, то сегодня, судя по результатам того же опроса, к каким-либо партиям и политическим движениям причисляет себя всего 19 процентов опрошенных. Таким образом, более или менее авторитетных политиков у широких слоев молодежи в настоящее время в Беларуси вообще нет. На выборах Президента некоторая часть двадцатилетних сделала ставку на Лукашенко. И, судя по сегодняшнему опросу, просчиталась: Александр Григорьевич надежды большинства из них не оправдал.

Наибольшую степень согласия респонденты проявили с утверждением, что при решении политических проблем за основу следует брать равенство всех людей, независимо от того, являются ли они представителями коренной нации республики или нет. С этим полностью согласились 47,8 процента опрошенных, более-менее согласны с такой постановкой вопроса 15,1%, не совсем согласны 7,3% и лишь пять с половиной процентов категорически против такого утверждения.

**Соб. инф.**

